## Іголкатэрапія

### Па-чорнаму

***Мінскі раён.*** Па-чорнаму можна жартаваць, працаваць, нават піць. А яшчэ — падманваць.

На тэрыторыі вытворчай базы адной фермерскай гаспадаркі ў пункце скупкі металу сталічны жыхар, работнік гэтай установы, скупляў у жыхароў бліжэйшых вёсак металалом. І не толькі недаплачваў людзям, але і махляваў з дакументамі. Між тым жартаваць па-чорнаму з ломам чорных металаў ніколі не варта!

У выніку супрацоўнікі фінансавай міліцыі канфіскавалі больш за дваццаць тон адходаў чорных і каляровых металаў, вінаватых збіраюцца прыцягнуць да адказнасці.



### Мёртвыя каровіны душы

***Полацкі раён.*** Вось ужо 170 гадоў людзі зачытваюцца тым, як гогалеўскі Чычыкаў скупляў у памешчыкаў мёртвыя душы.

Гэты сюжэт вырашылі запазычыць на некалькіх фермах сельскагаспадарчага прадпрыемства «Островщина», каб утаіць факт падзяжу жывёлы. Загадчыкі фермаў «Островщина», «Шпаковщина», «Полюдовичи», «Литвиново» прадавалі «мёртвых кароў» сваім работнікам, а людзі нават не здагадваліся: спачатку ім налічвалася матэрыяльнае ўзнагароджанне, а потым — утрымлівалася. Такім чынам было прададзена трыццаць «мёртвых каровіных душ» на суму каля дзевяці мільёнаў рублёў.

Па матэрыялах праверкі ўзбуджаны дзве крымінальныя справы. Кіраўнікам ферм, у адрозненні ад літаратурнага героя, пазбегнуць адказнасці ўсё ж не ўдасца.



### «Нелегалаў» канфіскавалі

***Слонім.*** На адным з гандлёвых аб'ектаў горада фінансавыя міліцыянеры затрымалі абутак... без «грамадзянства». А ўсё з-за таго, што тавар, прывезены з Расіі, не быў належным чынам прамаркіраваны. Усяго такога абутку знайшлі на агульную суму больш як 58 мільёнаў рублёў.

Па рашэнні суда ўладальніка гандлёвага аб'екта аштрафавалі на два мільёны рублёў, а «нелегалаў» канфіскавалі.



### «Па-свінску»...

***Лідскі раён.*** «Па-свінску» праявілі сябе кіраўнікі дзвюх фермерскіх гаспадарак, якія вырошчвалі і скуплялі ў насельніцтва свіней, а потым з дапамогай мінчаніна праз падстаўныя кампаніі перапраўлялі мясную прадукцыю ў Расійскую Федэрацыю. Усяго з кастрычніка 2011 года па лістапад 2012 такім чынам было прададзена свініны на агульную суму больш як 2,2 мільярда рублёў.

У адносінах махінатараў узбуджаны крымінальныя справы. За «свінства» давядзецца адказаць...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Як пасябраваць з мышшу?

Іранеска



Каця баялася мышэй. З дзяцінства. І не проста баялася: калі бачыла гэтых маленькіх пушысцікаў, у яе пачыналася паніка, якая суправаджалася лямантам, слязьмі і яшчэ бог ведае чым. Але неяк у звычайны нядзельны вечар да Каці забегла сяброўка Ніна...

Нічога не прадвяшчала бяды. Ніна і Каця пілі чай, абмяркоўвалі жаночыя справы, спрачаліся, што будзе далей у любімым серыяле... Але нечакана з-пад кухоннай шафкі вызірнула мышка. Звярок падбег да кавалачка хлеба, які выпадкова ўпусціла гаспадыня, ухапіўся за яго лапкамі і пачаў грызці. І была б мыш у гэты дзень сытая і задаволеная, калі б гэту вылазку не заўважыла Каця...

Калі Ніна ўбачыла вочы сяброўкі, якія сталі вялікія-вялікія і пачула вар'яцкі лямант, яна падумала, што за яе спінай стаіць дзесяцігаловая пачвара з зялёнай луской і трымае ў лапах па велічэзнаму акрываўленаму цесаку. На шчасце, павярнуўшыся, убачыла толькі, як уцякае мыш. Але страх нікуды не прапаў, бо Каця, ускочыўшы на табурэт, працягвала істэрыку. Ніна нават уявіць сабе не магла, што чалавек здольны так доўга цягнуць пранікнёна-вісклівую ноту, ад якой не толькі лопаюцца барабанныя перапонкі, але і вочы пачынаюць слязіцца.

Неймавернымі намаганнямі ў сяброўкі атрымалася супакоіць Кацю, пасадзіць яе на табурэт і прымусіць зрабіць пару глыткоў гарбаты:

– Сяброўчка мая, ды ў цябе ж хвароба! Такі панічны страх завецца фобіяй.

– Хвароба? Вось толькі гэтага мне не хапала! Што цяпер рабіць – лекі купляць, да доктара ісці ці да бабулі якой ехаць, каб замаўляла?

– Чакай, зараз усё высветлім! Да мужа сястра прыехала, а яна год таму дыплом абараніла на гэтую тэму, – сказала Ніна і набрала нумар тэлефона. – Марыначка, гэта пытанне жыцця і смерці, прыходзь хутчэй да маёй сяброўкі Каці, без цябе не справімся!

– Што хоць здарылася?

– Няма часу тлумачыць, бяжы сюды! Тут жа зусім недалёка! – сказала Ніна і адключыла тэлефон.

Не прайшло і пятнаццаці хвілін, як Марына, уся ўскудлачаная і перапалоханая, стаяла на парозе:

– Дык што здарылася?

– Мыш здарылася! – пачуўся з кухні слязлівы голас Каці.

– Якая яшчэ мыш? Вы здзекуецеся ці што?!

– Звычайная! Вылезла з-пад шафы, а Каця, убачыўшы яе, крычаць пачала, ледзь прытомнасць не страціла. Фобія ў яе мышыная, – патлумачыла Ніна.

– Мусафобія – так правільна.




## З 85-годдзем ЮРЧАНКУ Георгія Фёдаравіча,

*беларускага пісьменніка. Скончыўшы Магілёўскі педінстытут, Георгій Фёдаравіч доўгі час настаўнічаў на Гродзеншчыне. Тады ж і пачаў друкавацца. За пісьменнікам адразу трывала замацавалася слава парадыста. Відаць, няма ў нашай літаратуры прозвішча, якога б «не заўважыў» сваім гумарыстычным пяром Г. Юрчанка. Прычым і празаічная, і паэтычная імітацыі ў творцы бездакорныя.*

*Як запрог Георгій Фёдаравіч свайго Пегаса, так і едзе на ім, не спыняючыся, усе гады. Толькі аднойчы распрог яго ў вожыкаўскай кніжцы «Распрэжаны Пегас» (1965). А яшчэ ён ездзіў «Вярхом на вожыку» (1968), зведаў «Парнаскія ўхабы» (1979), будзіў «Негабляваную пегасню» (1989) і іншае.*



## АНОШКІНА Івана Архіпавіча,

*беларускага пісьменніка. Смяяцца Іван Архіпавіч пачаў неўзабаве пасля вайны, калі было не да смеху, надрука-*

Добра, давайце разбірацца, — і Марына прайшла на кухню.

Зручна размясціўшыся на табурэце, узяўшы ў рукі кубак гарбаты, дзяўчына пачала расказваць тое, што ведала пра гэта захворванне:

— Фобія — гэта моцна выражаны, упарты, дакучлівы страх, які незваротна абвастраецца ў пэўных сітуацыях і часта не паддаецца поўнаму лагічнаму тлумачэнню.

— Вось-вось, як можна баяцца мышэй, яны ж маленькія і зусім не страшныя. Не лагічна! — падтакнула Ніна.

— Не перашкаджай успамінаць, — сказаў «запрошаны спецыяліст». — Лічыцца, што фобія — гэта страх, які перайшоў нам ад першабытных продкаў, але ў апошні час яго ўсё часцей звязваюць са стрэсам. Ёсць яшчэ адна версія, якой прытрымліваюцца ўсялякага роду экстрасэнсы. Яны лічаць, што гэта апантанасць дэманамі.

— Якія яшчэ дэманы! Ніхто мяне не «апантоўваў». Маці ў мяне баялася мышэй, бабуля і прабабуля. Сямейнае гэта ў нас, у спадчыну перайшло,— запратэставала Каця.

— Цяпер гэтым псіхічным захворваннем пакутуе кожны восьмы чалавек на зямлі, а налічваецца фобій каля двухсот, — працягнула залвіца Ніны.

— Псіхічнае захворванне? — паўтарыла Каця і акругліла вочы. — Няма ў мяне нічога такога! У самой цябе захворванне!

— Галоўнае, самі мяне паклікалі, а цяпер яшчэ і абзываюцца, — пакрыўджана адгукнуўся «запрошаны спецыяліст».

— Нічога мы не абзываемся, — сказала Ніна і пагразіла Каці пальцам, маўляў, памаўчы лепш.

— Людзі панічна баяцца многіх рэчаў, — прадоўжыла Марына. — Гэта замкнёныя прасторы (клаўстрафобія), вышыня (акрафобія), боль (алгафобія), пчолы і восы (апіфобія), кроў (гемафобія), цемра і ноч (ніктафобія), павукі (арахнафобія), змеі (афіяфобія), іголкі і ўколы (трыпанафобія), жабы (буфанафобія) і іншыя.

— О! Сапраўды! — закрычала Каця. — Як я ад мышэй уцякаю, так мой муж — ад жаб. Смяюся, не магу проста, калі бачу, як ён на іх рэагуе. І ведае, што слабіну даваць нельга, усё ж такі мужчына, галава сям'і, а самога аж перакручвае пры адным іх выглядзе.

— Так-так-так! А мой муж так рэагуе на кроў. Я нядаўна палец парэзала, дык ён адразу збялеў увесь і ўцёк, нібыта ўспомніў нешта вельмі важнае, — тут жа ўспомніла Ніна.

— Я вам распавяла пра самыя распаўсюджаныя, але ёсць яшчэ і дзіўныя, невытлумачальныя, незвычайныя фобіі. Напрыклад, лаханафобія — боязь агародніны, сомніфобія — боязь спаць, тэтрафобія — боязь лічбы 4, фобафобія — боязь фобій. Доўга вучыла боязь доўгіх слоў — гіпапатамамонстрасесквіппедаліафобія. Прачытаўшы назву першы раз, я сама не на жарт спалохалася. Ёсць людзі, якія баяцца лялек, клоўнаў, падлеткаў... Сустракаецца нават эргазіафобія — боязь працы, — старанна ўспамінала дзяўчына.

— Думаю, што ў многіх часам прачынаецца гэтакая хвароба, — ледзь не ў адзін голас сказалі Каця ды Ніна і дружна засмяяліся.

— Але калі гэтыя страхі пачынаюць перашкаджаць нармальнаму жыццю, то лепш за ўсё звярнуцца да спецыяліста, бо гэта справа сур'ёзная, — скончыла свой аповед Марына.

Дзяўчаты яшчэ да глыбокай ночы абмяркоўвалі фобіі, з некаторых дружна смяяліся, а ад некаторых па целе прабягалі мурашкі. Але галоўным вынікам гэтага вечара стала тое, што пасля таго, як усе разышліся, Каця адкрыла халадзільнік, адшчыкнула маленькі кавалачак сыру, акуратна паклала яго на падлогу каля шафкі і сказала:

— Баяцца я цябе не перастала, але можа ўсё ж паспрабаваць з табой пасябраваць?

***Наталля КУЛЬГАВАЯ.***

---

*ваўшы ў 1946 годзе ў абласной газеце, а потым і ў «Вожыку» свае першыя гумарэскі.*

*У 1959 годзе ў «Бібліятэцы «Вожыка» выйшла першая кніжка І. Аношкіна «Лішні мінус». З таго часу ў яго творчы багажнік пачалі плюсавацца зборнікі апавяданняў, аповесцей, гумарэсак, а таксама кнігі для дзяцей. У 1985 годзе пабачыла свет кніга апавяданняў і гумарэсак «Курам не да смеху».*

*што вершы, мініяцюры, пародыі У. Ермалаева пачаў друкаваць часопіс «Вожык», а затым выдаў у сваёй «Бібліятэцы» і кнігі гумару «Хто не смяецца, той не есць!» (1994), «Пераход кольскасці ў колкасці» (1997). Выйшлі таксама кнігі гумару і сатыры «Радком па кумпалу» (1998), «Дулі будуць апасля» (2004), «Смехам закаханыя» (2008).*



## *З 80-годдзем*

***ЕРМАЛАЕВА Уладзіміра Фаміча,***

*беларускага пісьменніка. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт, выкладчык, «грашыць» вершамі пачаў яшчэ з маленства. «Даграшыўся» да таго,*



## *З 70-годдзем*

***ЧАРНЯЎСКАГА Мікалая Мікалаевіча,***

*беларускага пісьменніка, на творчым рахунку якога дзясяткі кніг для дзяцей, шэраг зборнікаў лірыкі. Ніколі не парываў паэт і з гумарыстычным цэхам нашай літаратуры. Смяяцца ды яшчэ высмейваючы* →



## Мікола ЧАРНЯЎСКІ



### Ода гусінаму пяру

Ніхто не лічыў за абразу,
Быў час, які сплыў, як паром:
І вершы, і царскія ўказы
Гусіным пісалі пяром.

Нязручна, канешне, нялоўка
Абмакваць было ды вастрыць,
Выводзіць ім кожнае слоўка
І чуць, як шурпавіць, рыпіць.

Ды, мусіць, быў сэнс адмысловы,
Свая жыла ў пёрку душа:
Раней, чым напішаш ім слова,
Быў момант падумаць спярша.

Пакутны працэс, ды ўсё роўна
Ніхто не крывіў баразну,
Чыноўнікам розных узроўняў
З іх капала шчодра ў казну.

Чыноўнікам скрозь шанцавала,
Прагрэс, ён аблегчыў іх лёс, –
Не пёры,
Якіх бракавала,
Ён ім самапіскі прынёс.

У час, што для многіх няблізкі,
Уладнікі справы вялі:
Ва ўсіх для адпіскі
Былі самапіскі,
Такія ж, як штампы, былі.

Ды час не стаяў, быў увішны,
Каб свету свой плён паказаць:
Змяніліся пёры на стрыжні –
Зусім лёгка стала пісаць.

І я так падумаў: «Мо варта
Начальнікам, творцам усім
Гусіныя пёры не жартам –
Напраўду вярнуць, назусім?

Начальству, каму гэтак міла
Вяршыць усё ўладна стылом, –
Каб, пёрка макнуўшы ў чарніла,
На роздум з хвілінку было.

А творцам гусіныя пёры
Зноў Муза у рукі б дала,
Каб словы крылялі ў прасторы,
Каб думка высокай была».

Ды зноў жа –
крылатым на гора –
Не будзе ў адстрэльнікаў меж,
Бо ўсюды чыноўнікаў – мора
І нашага брата – не менш!

### *Карацелькі з Парнаскай арцелькі*



### Смех

Сам не паспееў даўмецца?
Трымай у галаве:
Хто часцей смяецца,
Той даўжэй жыве.

Даўно я ў гэта веру
І раю без маны:
Ты смейся,
Але ў меру,
Бо лішні смех –
Дурны!



### Памяркоўны кот



Хадзіў, аблізваўся,
Дзівіўся кот на сала:
– Узяў бы, з'еў,
Ды, мусіць, будзе мала.



### Несправядлівасць

Шакалу скардзіўся вярблюд:
– Я ж не гультай,
Не шалапут.
Вязу, цягну –
Не прадыхнуць.
А плюну ў вочы –
Тут жа б'юць.
Я ж, калі глянуць справядліва,
Плюю з усмешкай,
Не гідліва.

### Скарга

«Гэй, качарга!» – штодня чуваць.
Ці ж гэта не абраза?
А жар патрэбна выграбаць –
За качаргу адразу.



---

*сяго-таго вучыўся яшчэ ў школьныя гады. А на вожыкаўскія калючкі трывала «сеў», будучы студэнтам, надрукаваўшы ў 1965 годзе верш «І не косяць, і не жнуць». Потым былі кнігі сатыры і гумару «Казёл-моднік» (1978), «Нашто бабе агарод?» (1989), што выйшлі ў «Бібліятэцы» «Вожыка». А таксама кнігі гумару «І не косяць, і не жнуць...» (1982), «Камар на матацыкле» (1985), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996).*

*У апошнія гады аўтар усё часцей і часцей звяртаецца да драматургіі. Многія яго п'есы мелі ўдалае сцэнічнае ўвасабленне, і поспеху іх у гледача садзейнічаў уласцівы аўтару гумар.*



### З 65-годдзем ТКАЧОВА Васіля Юр'евіча,

*беларускага пісьменніка. Пачынаў ён з дзіцячых твораў, упершыню надрукаваўшыся ў часопісе «Вясёлка». Потым былі дзіцячыя кнігі «Хітры Данік» і «Партрэт салдата», проза для дарослых і публіцыстыка.*



### ГАЛЬПЯРОВІЧА Навума Якаўлевіча,

*беларускага пісьменніка. Чытачоў у паэта значна больш, чым у астатніх творцаў. А ўсё таму, што да ўсяго ён вядомы і як непаўторны радыёжурналіст. Яго не толькі слухаюць, але і чытаюць яшчэ і радыёслухачы. А з «Вожыкам» Навум Якаўлевіч сяброе з 1998 года, калі прыйшоў сюды працаваць намеснікам галоўнага рэдактара. Сяброўства гэта, як прызнаецца ён сам, надзейнае.*





Малюнак Алега КУРПІКА.

**Міхась УЛАСЕНКА**

## ЦЕРУШЫНКІ

* * *

Ля лайдакоў
ды ля багатых
Заўжды даволі памагатых.

* * *

Ён дужы, смелы,
Ды раздвоен:
На працы — млявы,
Дома — воін.

* * *

Галава аб тым баліць:
Ці наліць,
ці не наліць.

* * *

Відаць дзеўку па вачах,
Што гуляе па начах.

* * *

Жыццё, жыццё...
Адны турботы —
Ні ноччу сну,
Ні днём работы.

* * *

Быў у нас
і шлюб пад плотам,
А вяселле было потым...

* * *

Гэты стары змуста
Цісне аж да хрумста.

* * *

Заўжды лёгкі на ўспаміне
Там, дзе булькае ў графіне.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

# Навіны з МУС: матай на вус...

### Апошні рамантык

***Горкі.*** Даму сэрца неабходна заваёўваць. Нехта будзе насіць яе на руках, нехта — пісаць вершы, нехта — рабіць каштоўныя падарункі ці абяцаць дастаць зорку з неба. Варыянтаў шмат, і кожны рамантык выбірае свой.

А вось 26-гадовы мясцовы жыхар вырашыў знайсці новы падыход да гэтай нялёгкай справы. Ён забег у кіёск, дзе прадавалі кветкі, схапіў букет і кінуўся наўцёкі. Ад вялікіх і светлых пачуццяў нават расплаціцца забыўся.

Калі горкаўчаніна затрымалі міліцыянеры (між іншым, каля кватэры дамы сэрца), то ён тлумачыў свой учынак тым, што гэта было каханне з першага погляду, але ніхто ў гэта не паверыў. Можа, з-за таго, што за такое правапарушэнне хлопца затрымліваюць ужо другі раз? Зараз апошняму рамантыку пагражае да шасці гадоў зняволення.

### Зразумелі па-свойму

***Бабруйск.*** Віні Пух — вельмі гаспадарлівы мядзведзь. Памятаеце, як на дзень нараджэння свайго сябра восліка Іа ён падарыў яму не нейкую бескарысную рэч, а гаршчочак з-пад мёду, у які можна пакласці ўсё што хочаш? Каб хоць крышачку быць падобным да гэтага мультыплікацыйнага героя, трое бабруйчан паспрабавалі ўкрасці дзевяць пустых піўных бочак з тэрыторыі прадпрыемства «Пивоварня Хайнекен» на агульную суму каля адзінаццаці мільёнаў рублёў. Але былі затрыманы вартаўнікамі прадпрыемства.

Зараз ім пагражае да чатырох гадоў зняволення. Можа, у турме іх навучаць, як стаць па-сапраўднаму гаспадарлівымі?

### Незаконны эксперымент

***Маладзечна.*** Тое, што са з'яўленнем веласіпеда людзі становяцца дабрэйшымі, заўважыў яшчэ паштальён Печкін з мульціка «Простоквашино». А што будзе, калі ў іх адабраць жалезных коней? Даследаваць гэта пытанне вырашыў 21-гадовы мясцовы жыхар і, не доўга думаючы, украў тры веласіпеды. У выніку доследу было выяўлена, што крадзеж двухкалёсных сяброў выклікае ў гаспадароў нервовасць, прыступы злосці.

Эксперымент прайшоў удала. Праўда, пацярпелыя не зразумелі яго сапраўднай навуковай каштоўнасці і падалі на эксперыментатара ў суд.

У выніку злодзею прысудзілі год выпраўленчых работ і выплату больш як 2,5 мільёна рублёў кампенсацыі за маральны ўрон. Спадзяёмся, што пасля гэтага хлопец будзе праводзіць толькі законныя эксперыменты.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў і УУС Мінскага аблвыканкама.***

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

# СА СТАРОГА СШЫТКА



Дзякуй богу, што сексуальная рэвалюцыя не скончылася вайной.



Вецер у галаве ніколі не бывае спадарожным.



Калі чалавеку адкрыць вочы, тады яму цяжка закрыць рот.



Начальнік задумаў пачаць паскарэнне з разгону. Разагнаў не ўсіх...



Каб стаць аптымістам, трэба прыняць рост цяжкасцей за цяжкасці росту.



Для запявалы галоўнае – голас, для падпявалы – слых.



Як толькі завострыш пытанне, адразу раяць закругляцца.



Палітыку трэба рабіць чыстымі рукамі, а потым іх доўга-доўга мыць.




Маленькія падарункі ўмацоўваюць сяброўства, вялікія – карупцыю.



Яшчэ не вядома, як лёгкія на пад'ём пакажуць сябе на спуску.






– Доктар, трэба тэрмінова прыбраць пляму з маёй рэпутацыі...

Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.







Малюнкі Андрэя СКРЫННІКА.

## АНЕКДОТ

Жонка пасылае мужа ў магазін.
– Ты паглядзі, якая на вуліцы завіруха! – упарціцца ён. – Добры гаспадар сабаку на вуліцу не выганіць!
– А хіба я казала табе браць з сабою Тузіка? – дзівіцца кабета. – Ідзі адзін.

***Даслала Тамара БАРАДЗЁНАК, Віцебская вобласць, г. п. Ушачы.***

**Міхась СЛІВА**

# НЕСПРЫЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ

Іранеска

Неяк мы завялі ў газеце рубрыку, у якой змяшчалася інфармацыя пра неспрыяльныя для здароўя дні. Гэтае нававўвядзенне спадабалася многім. І мы радаваліся: прыносім карысць людзям.

Сёння ж зранку пазваніла незнаёмая жанчына і пачала абурацца:

— Вы прымушаеце мяне хвалявацца! Буду скардзіцца!

— А што здарылася?

— Я не атрымала газету і таму не ведаю, які сёння дзень: спрыяльны ці неспрыяльны. Сяджу і пакутую, думаю, прымаць лекі ці не...

— Прабачце, але ў тым, што вы не атрымалі газету, рэдакцыя не вінаватая. Спытайце на пошце, — ветліва адказваем жанчыне. — А якое ў вас самаадчуванне?

— Добрае...

— Ну дык радуйцеся жыццю, займайцеся справамі...

Праз некаторы час пазваніў нейкі дзядок. У яго — свая скарга:

— Вы, шаноўныя журналісты, няпраўду пішаце!

— Чаму ж? — захваляваліся мы.

— Вось напісалі ў газеце, што сёння — неспрыяльны дзень, а ў мяне цудоўнае самаадчуванне!

— Ну дык скажыце: «Дзякуй богу!» ды адпачывайце на здароўе!

— Дык як жа так: вы друкуеце адно, а атрымліваецца другое! І наогул, адкуль вы ведаеце, пра што пішаце?

— Наконт прагнозаў усе звесткі ёсць у інтэрнэце...

— Што мне ваш інтэрнэт! Вы праўду пішыце! Калі дзень неспрыяльны, то чаму я гэтага не адчуваю?

— Значыць, вы неметэазалежны чалавек...

— Але ж я таксама чытаю вашу газету! Буду скардзіцца!

— Вось і пацвердзіўся наш прагноз, — з горкай усмешкай сказаў галоўны рэдактар. — Дзень сапраўды неспрыяльны, прынамсі, для нас.

***г. Рагачоў.***




**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

## «Пераканаў»

*Быль*

Аднойчы лектар пра курэнне
Нам доўга лекцыю чытаў.
Вядома, справу сваю знаў:
Была ўся зала ў захапленні.

А ён курэнне кляў ды кляў,
Даказваў, што яно — атрута,
І з ворагам здароўя лютым
Усіх змагацца заклікаў.

Закончыў лектар «навучанне»,
З палёгкаю вады адпіў.
Спытаў: «Якія ёсць пытанні?»
І... цыгарэту закурыў.

***Пастаўскі раён, в. Камаі.***




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## Вожыку пішуць...



***Дружа Вожык!***

Звяртаюся да цябе са сваёй непамыслотай. Спатрэбілася мне нядаўна адправіць вялікую і важкую пасылку. Пайшла на пошту па месцы жыхарства, але там мне нічым дапамагчы не змаглі і накіравалі аж на паштамт.

Паехала туды з мужам на машыне. Спачатку мы доўга не маглі знайсці месца, дзе можна было б прыпаркавацца, бо не хацелася цягнуць здалёк на сабе цяжкую ношу. А потым, калі ўсё ж данеслі пасылку да пошты, давялося падымаць яе па лесвіцы на другі паверх, дзе афармляюць адпраўку.

Хачу запытаць у цябе, мілы дружа, можа, мы з мужам зрабілі нешта не так, можа, ёсць больш просты спосаб адпраўляць такія нестандартныя пасылкі?

***Сям'я СІДАРЧУКОЎ,***
***г. Мінск.***



## Як стала вядома..

### Кантэйнеры ўстанаўліваюцца

Намеснік старшыні адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Мінска А. Даўгала ўважліва вывучыў пісьмо В. Нядзелькі, надрукаванае ў рубрыцы «Вожыку пішуць» у № 9 за мінулы год, і праінфармаваў, што ў мікрараёнах «Каменная Горка – 1, 2, 4, 5» на 95 жылых дамоў, якія знаходзяцца на абслугоўванні УП «ЖРЭА № 2 Фрунзенскага раёна г. Мінска», усяго размешчаны 121 кантэйнер для паасобнага збору другасных матэрыяльных рэсурсаў у змешаным выглядзе. Акрамя таго, з улікам засялення дамоў-навабудоўляў ЖРЭА ажыццяўляе дадатковую ўстаноўку кантэйнераў у адпаведнасці з колькасцю жыхароў.



### Справы перададзены ў Гаспадарчы суд

«Мука для Калабка» («Вожык» № 10 за 2012 год) дорага гукнулася любіцелям казак: супрацоўнікамі Упраўлення па Віцебскай вобласці Дэпартамента фінансавых расследаванняў складзены пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накіраваны для разгляду ў Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці. Пра гэта нам паведаміў в. а. начальніка УУС Віцебскага аблвыканкама М. Данькоў.



### Лес сякуць — закон выконваюць

Старшыня Вілейскага райвыканкама Я. Сініла прачытаў пісьмо А. Чупрыса, надрукаванае ў рубрыцы «Вожыку пішуць» у № 10 за мінулы год, і паведаміў, што адводы пад высечку лесу праводзяцца згодна з лесаўпарадкавальным праектам, які прайшоў узгадненне ў 2010 годзе. Самі ж высечкі лесу рэгламентуюцца адпаведнымі правіламі, зацверджанымі пастанаўленнем Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь у 2008 годзе. А згодна з «Настаўленнямі па лесааднаўленню і лесаразвядзенню ў Рэспубліцы Беларусь», таксама зацверджанымі гэтым міністэрствам, узамен высечанага лесу ДВЛГУ «Вілейскі вопытны лясгас» ажыццяўляе пасадку лясных культур.









Малюнак Андрэя Слуцкага.



Малюнак Аляксандра ПАПОВА.




Малюнак Руслана БОГУША.



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.







*К а р о в а:*
*– Бачыш, не толькі ў нас малако на языку, але і ў старшыні.*
*Малюнак В. КЛЮЧНІКА. 1987 г.*




*На п'едэстале з неразгледжаных скаргаў.*
*Малюнак А. ЧУРКІНА. 1965 г.*



*– На вашых вачах дрэва ламаюць.*
*– А мы не з гэтага двара.*
*Малюнак С. РАМАНАВА. 1969 г.*




*Ярмо-87.*
*Малюнак П. КОЗІЧА. 1987 г.*




*– Дзе гэта вуліца, дзе гэты дом?*
*Малюнак А. МІХАЙЛАВА.1975 г.*




*– Які дзяшовы гумар?*
*– Які ж ён дзяшовы*
*– рубель і восемдзесят*
*капеек заплаціў.*
*Малюнак Л. ЧУРКО.*
*1965 г.*

**Васіль ТКАЧОЎ**

*ГУМАРЭСКІ*

# Вылечыў

Іван Сідаравіч сабраўся аднесці кніжкі ў бібліятэку. Атрымаўшы заадно ад жонкі заданне зайсці ў магазін (каб парожнім не швэндаўся), выйшаў на ганак. На лаве каля пад'езда сядзеў мужчына ў пакамечаным касцюме. На ягоным носе трымаліся несамавітыя акуляры, шкельцы якіх былі розныя: празрыстае і цёмнае. Празрыстае шкельца было трэснута.

– Мужчына... – не зводзячы позірку з Івана Сідаравіча і няўпэўнена абапіраючыся адной рукой на лаву, а другой махаючы ў паветры, нібы намагаючыся за яго ўхапіцца, чалавек у акулярах нарэшце ўзняўся. – Пачакай... Ты мяне зразумееш... Я ветэрынар... Жонка, гадаўка, забрала ўсе грошы і з'ехала ў вёску! Верыш? Я ў суседнім доме жыву... Дзе аўтамагазін... І пошта...

– Ну-ну, – суха адказаў Іван Сідаравіч, але хаду затрымаў.

– А я ўчора, значыць, звэлхаў двух парсюкоў, выпіў, вядома, а сёння – хварэю. Ты ж мужык, павінен мяне зразумець.

– Дык што вам трэба? – спытаў Іван Сідаравіч, хоць добра ведаў на што той намякае і, не чакаючы адказу, працягнуў небараку дзесяць тысяч рублёў.

Мужчына хацеў нешта сказаць, але ў адказ толькі соп і крактаў. Урэшце гукнуў у след Івану Сідаравічу прапітым голасам:

– Я, зямляк, у даўгу не застануся!...

Назаўтра Іван Сідаравіч з жонкай выбраліся ў горад. Апрануліся па-святочнаму, выйшлі на ганак. На лаве сядзеў усё той жа мужчына ў пакамечаным касцюме. Цяпер да дужак акуляраў была прывязана гумка, а чорнага шкельца не было на месцы.

– О! – гукнуў мужчына. – Я цябе чакаю! – і памкнуўся насустрач, працягнуў руку для прывітання. – Ты ж мяне вылечыў, помніш? Пахмяліў тады добра... Я ў даўгу не магу застацца. Сёння ў мяне ёсць грошы... Хадзем, пачастую!

Твар Івана Сідаравіча запунсавеўся. Жонка спачатку страціла мову, а затым прашыпела:

– Ну і сяброк у цябе! Бомж! Дакаціўся!..

– Ды я... я... не піў... – замэкаў Іван Сідаравіч, але пад строгім жончыным позіркам змоўк.

А «ветэрынар» не супакойваўся, нахабна тузаў Івана Сідаравіча за рукаў:



– Хадзем! Ты баб меней слухай. Мая ж... усе грошы хапнула і... А я сёння звэлхаў... І на заўтра заказ маю... Так што – жывём!..

Жонка пацягнула Івана Сідаравіча за сабой, аднак мужчына ў акулярах не адставаў ад іх. Яго «сёння звэлхаў... пойдзем вып'ем...» чулася далёка. Знаёмыя азіраліся: як быццам прыстойная сям'я, а такія сябры!..

Іван Сідаравіч нарэшце не вытрымаў і злосна закрычаў:

– Ды не п'ю я-я-я!!!

– Дык... дык а як жа я з табой тады разлічуся? – не мог зразумець «ветэрынар». – Не, не прыкідвайся: пайшлі – і ўсё! Ты мяне вылечыў, я павінен аддзячыць. За дабро дабром плаціць трэба. Хе-е, думаеш, я не ведаю гэтага!..

Іван Сідаравіч пабег...

# Модніца

Кім у нас працуе Пятроўна? Ніколі не здагадаецеся. Апранаецца заўсёды з іголачкі, усё на ёй блішчыць і зззяе. Модніца! Нават дырэктрыса Сцяпанаўна ёй зайдросціць. І дзе толькі грошы бярэ, спытаць бы? Хто спансіруе? Венікам грошай не намяцеш, швабрай не нашвабрыш. Здагадаліся нарэшце? Пятроўна – прыбіральшчыца. Самая звычайная. Хоць, пэўна, і не: за ёй замацаваны кабінет дырэктрысы. Гэта не кожнаму давераць.

Аднаго разу Пятроўна старанна прыбрала ў кабінеце, працёрла люстэрка... Стаіць перад ім, прыхарошваецца. Раптам нехта нясмела паляпаў у дзверы.

– Заходзьце, калі ласка! – ветліва запрасіла Пятроўна.

У кабінет прасунуў галаву ўсхваляваны нечым рабочы Аленчык (толькі ўчора на працу ўзялі), нясмела папрасіў:

– Мне на тры дні... трэба... адлучыцца. Па сямейных справах. Адпусціце?

Пятроўна ўважліва паглядзела на Аленчыка, пацiснула плячыма і са спачуваннем прамовіла:

– Калі трэба... то трэба... асабіста я не супраць. Бываюць жа сітуацыі, калі неабходна... так-так... я разумею.

– Бываюць, – заківаў галавой Аленчык, падзякаваў «дырэктрысе» і знік за дзвярыма.

...Праз тры дні Аленчык атрымаў першую ў сваім жыцці вымову за прагулы, а Пятроўну прымусілі апранаць на рабоце халат. А таксама параілі прыхарошвацца перад люстэркам дома, каб ніхто больш не прымаў яе за дырэктрысу. Ведай сваё месца, модніца!..





Анатоль
ГАРМАЗА



# Крона радзей — усмешкі гусцей

«...Стосы размаляванай мною паперы не вывязе, мабыць, нават самазвал. У думках праходзіў шлях у зваротным напрамку – ад паперы да дрэва, і трапляў у велізарны лес. Лес, вядома, шкада, але калі карыкатуры дапамагаюць людзям жыць, і жыць, усміхаючыся, значыць, ахвяра была не дарэмнай».

***Паводле кнігі «Белорусы смеются», Мн., 2006.***












Мань-я-як!
«Як жану чужую, абдымаў бярозку!..»
Пятрусь, крыху ўлева!
Блакітная!
Запаску пастаў.
Я табе не буду замінаць...
Свежае малако!!!
Лебедзь. Дызайн!
Мікола! У цябе ж радыкуліт!..
Хэппі бёздэй, туя...
Ураджаю не бачна.
Разлёгся!.. Абы не фарбаваць!..




# МАСТАК ВЯСЁЛАГА СЛОВА


Шарж Яўгена БУСЛА, 1987 г.

*Мікола (Мікалай Міхайлавіч) ВАДАНОСАЎ (1923 – 2006) паходзіў з Мінска. Бацька пісьменніка быў ваенным, служыў на савецка-польскай граніцы, загінуў пры затрыманні кантрабандыстаў, калі сыну споўніўся толькі год. Да вайны М. Ваданосаў вучыўся ў тэхнікуме сувязі, а калі пачалася вайна, яго накіравалі радыстам у варожы тыл. У вайну быў тройчы паранены. Пасля перамогі працаваў тэхнікам на Беларускім радыёцэнтры і спрабаваў свае сілы ў літаратуры. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Пачынаў з вершаў, а потым перайшоў на прозу. Доўгі час працаваў рэдактарам у выдавецтвах «Беларусь» і «Мастацкая літаратура».*

*Не забываў пры гэтым і пра гумар, пісаў вясёлыя кнігі для дзяцей і дарослых, а таксама актыўна супрацоўнічаў з «Вожыкам». У «Бібліятэцы «Вожыка» выдаў зборнікі гумарыстычных апавяданняў «Прынцыповы аратар» (1966), «Сам сябе падвёў» (1973), «Левыя ногі» (1983).*

*Таленавіты, праніклівы мастак слова, са дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 90 гадоў, закранаў у сваіх творах вельмі шырокую тэматыку, побач з сур'ёзным у нашым жыцці і побыце ўмеў бачыць смешнае ды падаваць яго лаканічна, дасціпна. Зрэшты, у гэтым лёгка пераканацца, прачытаўшы некаторыя з яго гумарэсак.*

**Мікола ВАДАНОСАЎ**

## Госці, называецца...

Гасцей сабралася многа.

Змітро Андрэевіч Шклоўскі, чалавек па натуры сціплы і ціхі, толькі дзіву даваўся, як гэта яны так дружна прыйшлі павітаць яго з добрым здароўем, заслужаным адпачынкам і пенсіяй.

– Любяць цябе, Дзіма! – радавалася жонка, умільна пазіраючы на Змітрака, як не глядзела ўжо, можа, добры дзясятак год. – Чуеш, як гамоняць? Усё пра цябе, пэўна...

– Толькі б не хвалілі, калі будуць падымаць тосты, – ціха сказаў ён сваёй палавіне. – Цярпець не магу фіміяму і рознай там лішняй гаманы...

– Нічога, вытрымаеш, – адказала жонка, паклаўшы на блюда смажанае парася з пятрушкай у зубах. – От, скажы, ці мала ты ім за жыццё дабра зрабіў?

– Усяго было... – згадзіўся Змітро Андрэевіч, прыгладзіўшы парадзелыя валасы. – Колькі ім кніг адрэдагаваў – уга-а-а! Бывала, такога наплятуць, што цэлыя старонкі даводзілася перапісваць нанава... А чаму? Бо ў іх талент, а ў мяне што? Толькі і ведаю, як трэба правільна сказ пабудаваць...

І ён паволі, накульгваючы на левую нагу, паплёўся ў залу, дзе ўжо ад цыгарэтнага дыму пагойдвалася пад столлю сіняватая хмарына, а шматгалосая гамана, як грукат грому, не сціхала ні на хвіліну...

Нейкі час Змітро Андрэевіч пазіраў на ўсё гэта і ад радасці не мог даць веры, што такія вядомыя людзі, майстры слова і кісці, пакінулі ўсе свае справы і ўважылі, аддалі дарагі ўсім час дзеля такога непрыкметнага чалавека, як ён...

– Сябры мае, таварышы! – стараючыся перакрычаць сіплаватым голасам дружную грамаду, узняў угору абедзве рукі юбіляр. – Як кажуць, салаўя байкамі не кормяць...

– А-а-абсалю-ютна верна! – пачулася ў кампаніі, і ўсе зарагаталі, бо гэта сказаў вядомы крытык і перакладчык з любой мовы на любую Варабейчык. Ён заўсёды пачынаў гаворку са слова «абсалютна».

– Дык вось і прашу ўсіх за стол! – гаспадар паказаў на доўгую эстакаду, застаўленую бутэлькамі і закускамі.

Госці не дужа марудзілі. Праўда, менш знатныя прапусцілі наперад больш салідных, а потым закаркавалі сабой усе хады і выхады застолля. А тут увайшла гаспадыня з ружовым парасём на блюдзе, і ўсеагульнае ажыўленне ледзь не перайшло ў авацыю.

І раптам стала ціха. Пачуўся мудры голас таго, хто, нягледзячы на сваю знатнасць і высокую пасаду, знайшоў час прыйсці да Шклоўскага ў такую ўрачыстую хвіліну.

– Таварышы! – падняў ён да краёў напоўненую чарку. – Я вельмі рады, што бачу за сталом людзей розных як па ўзросце, так і па таленце, як па творчай манеры, так і па стылі... Пра што гэта гаворыць? Гэта гаворыць пра тое, што мы, таварышы, не замыкаемся ў рамках нейкай абмежаванасці, не хаваемся ў вежах са слановай косці, выходзім на вялікі прастор неабсяжнай нівы і сеем разам вялікае, добрае, вечнае... Я нядаўна закончыў свой новы раман, які называецца «Жураўліная песня». Хто яе чуў калі? Хто яе бачыў? Цяпер пачуюць і пабачаць... Дык вось, галоўны герой у маім новым рамане амаль аднагодак нашага юбіляра. Думаю, што створаны мною вобраз паслужыць добрым прыкладам для моладзі, для ўсіх, хто шукае ў жыцці сваю дарогу. Дык жа вып'ем, таварышы, за тое, што ёсць яшчэ, як кажуць, порах у парахаўніцы!

Госць выпіў, папярхнуўся, і слёзы навярнуліся на вачах. Загрукаталі чаркі, відэльцы ды талеркі.

І раптам:

– Дазвольце мне, таварышы, малодшаму, так сказаць, пакаленню... – Гэта падняўся пачынаючы паэт, Карпенка, часты і даўні госць выдавецтва. Яго масляныя вочы ззялі задавальненнем, танклявы голас узрушана дрыжаў. – Першы раз я сустрэўся з юбілярам гадоў гэтак з дзесяцць назад. І трэба сказаць, ужо тады Змітро Андрэевіч заўважыў і падтрымаў мяне добрым ціхім словам. «Ты, Карпенка, – сказаў ён мне, – ідзеш у паэзію з багатым запасам назіранняў і цікавым жыццёвым вопытам». І гэта, даражэнькія таварышы, святая праўда. Я шмат працаваў,

і ад працы маёй быў плён... Мая шматпланавая лірычная паэма «Матчыны гурочкі» — споведзь пакалення, якое, маючы вышэйшую адукацыю, не забывае на сваю вёску і... помніць яшчэ пах маласольных гурочкаў, што вырасціла на сваім агародзе родная матуля...

Вёска, вёска, як ты люба-міла...
Паплавы, рака і засень ліп,
І гуркі, што маці засаліла,
І кароў мычанне з-за сяліб...
Эх, прыехаць бы туды калі б!..

Ён так разжаліў, гэты Карпенка, што ў многіх бывалых людзей павільгатнелі вочы.

Але бывалыя людзі не плакалі! Яны толькі яшчэ шпарчэй запрацавалі чаркамі і больш заўзята задымілі. І калі падняўся выступаць чарговы аратар, то твару яго ўжо не было відаць. Толькі чутно было, як хваліць ён свае карціны, якія хутка на рэспубліканскай выстаўцы прынясуць яму калі не неўміручую славу, то ўжо напэўна — сусветную вядомасць.

Потым падымалі тосты яшчэ нейкія людзі, дзесьці ў канцы стала, побач з юбілярам, басавіты голас зацягнуў: «Усю Еўропу за тры перакуры...», а гаспадар так і не пачуў пра сябе ніводнага слова.

— П'ю за в-вас, паважаны калега, — чокаліся за сталом крытык і паэт.

— А я... А я... — пнуўся нешта ўспомніць кучаравы бландзін і ўсё цёр далоняй масляністы рот. — Во — успомніў! Я ўчора дастаў на дачу шыферу...

— Шыфер ерунда! — махнуў на яго парасячым кумпячком сусед, барадаты мастак. — Лепш за ўсё — парасяціна з хрэнам. Не верыш, не? На, паспытай...

І тыцкануў кумпячком у нос бландзіну.

Малады празаік, які да гэтага часу ўсё нешта ўздыхаў і маўчаў, нарэшце загаварыў:

— Я люблю Кацярыну! Якая гэта жанчына, бог мой, якая цудоўная жанчына!..

Адным словам, у кожнага было нешта сваё. Гаварылі пра кнігі, карціны, дачы, цешчаў, суседзяў, але толькі не пра Шклоўскага. Яго нібы не існавала...

А потым, у перапынку, той, хто выступаў першы, раптам наткнуўся на віноўніка гэтай урачыстасці і, некалькі разоў ікнуўшы, сказаў:

— Ба-а-а, Змітро Андрэевіч! Як гэта ты да нас трапіў, стары, якім чынам?

Шклоўскі, таксама лішняе перахапіўшы, крыва ўсміхнуўся і махнуў рукою:

— Сам здзіўляюся...

***«Сам сябе падвёў», Мн., 1973 г.***

## Старая крыўда

Дзед Андрэй і дзед Халімон — суседзі. Не толькі суседзі. Старасвецкія дружбакі — так іх называюць у вёсцы. Пражылі яны, можна сказаць, сцяна ў сцяну ўсё сваё жыццё. А кожнаму з іх цяпер па восем дзясяткаў адгрукала. Не жартачкі. Абодва сівенькія, сухенькія. Як браты, яны часта днямі праседжваюць на лаўцы ў Халімонавым ці Андрэевым садзе і ўспамінаюць былое.

— А памятаеш, як мы з табою, калі яшчэ малыя былі, павыварочвалі кажухі, ускінулі іх на галовы ды спудзілі Нупрэевага жарабка, на якім яго сын, Марка, ехаў? — гаворыць дзед Халімон, і яго вочкі святлеюць.

Дзед Андрэй моршчыцца, трэ кулаком тоўсты чырвоны нос і нарэшце хрыпіць:

— А-а-а! Тады ён зваліўся і нагу зламаў?

— Ага...

— Так яму і трэба.

— Так яму і трэба... — падтаквае Халімон і дадае: — Задавака і прахвост! Панскі прыслужнік... Хе-х-хе-хе-хе! — Халімон ні то смяецца, ні то заходзіцца ад кашлю.

— Благі быў чалавек, дык і не пражыў свой век...

Але Халімон зноў успамінае ўжо новае.

— Ці помніш ты, Андрэй, як мы з табой zблудзілі ў нашынскай пушчы, як тры дні на дрэвах спалі ды птушачак смажылі, каб з голаду не памерці? А ўсё ты прыдумваў...

— Усяго было, — згаджаецца Андрэй, набіваючы тытунем люльку. — Неяк раз я вашу качку замест дзікай падстрэліў і яшчэ цябе частаваў. А ты хваліў, што смачная, як свая. Х-хі-хі-хі! — ужо кашляе-смяецца другі.

— А я, ужо хлопцам будучы, вашага парсючка цыганам прадаў! — усклікае Халімон, і зноў абодва весела смяюцца, па чарзе папыхкваючы з адной люлькі.

— Добра мы пражылі свой век, дружа, — задумліва ківае галавою Андрэй. — Ніхто нам, дзякуй богу, на старасці нічога благога не скажа. І самі ніколі не сварыліся...

— Сварыцца часам сварыліся, — махае рукой Халімон. — Памятаеш, як я цябе ў вір пхнуў, каб плаваць навучыўся, дык ты ледзь не ўтапіўся тады? Плюхаўся, фыркаў, як конь, але ўсё ж дашкрабаўся да берагу!

— А я цябе за гэта завёў на воўчую яму! От жа і павыў ты ў ёй дзянёк...

— Павыў! — хітра ўсміхаецца Халімон. — Але ж пасля і ты паплакаў...

— Як гэта паплакаў? — цямнее Андрэй і больш не дае Халімону люльку. — Ды я за ўсё сваё жыццё ні разочку не плакаў! У германскую ў палоне не плакаў, у Айчынную фашысты да сцяны ставілі — слязы не паказаў...

— Дык гэта было яшчэ да германскай, — гаворыць Халімон і смяецца. — Тады ты яшчэ Хведараву Ганульку абхажваў. Пайшоў неяк з ёю на вечарыну ў маіх штанах, бо твае на адных латах былі...

— Нешта не памятаю... — насцярожыўся Андрэй. — Дальбог, не памятаю...

— А я прыйшоў апасля ды і кажу пры ўсіх, хто там быў: «Аддай мае штаны, Андрэй, а то мне самому трэба да Кацькі ісці!» Вось дзе рогату было! Ганулька ад цябе, а ты ў дзверы. Збег у гумно і ночку на сене прарумзаў...

Андрэй устае, выбівае аб дрэва люльку і злосна, з натугаю, гаворыць:

— Хоць я таго і не памятую, але такой подласці ніколі табе не дарую! Не па-сяброўску гэта, Халімон, не па-сяброўску! Чыстае, што ні ёсць, свінства...

І ён паволі тэпае да свайго саду.

— Дык то ж калі было-о-о! — ідзе следам Халімон. — Яшчэ да германскай, шэсцьдзесят гадоў таму-у...

— Не чакаў я ад цябе такога... Не чакаў... — бурчыць сам сабе Андрэй і знікае за весніцамі.

Халімон уздыхае, круціць з газеціны цыгарку і вяртаецца назад, на сваю лаўку.

— Чорт, вось пацягнуў за язык, — сам сябе лае Халімон. — Столькі часу маўчаў, не памінаў. Х-х-хі-хі-хі!, — аж заходзіцца ён ад смеху. — Штаны ж тыя не мае былі! Я іх у Вольчынага Ахрэма пазычыў... Скажу заўтра Андрэю. Хоць пасмяемся разам...

***«Прынцыповы аратар», Мн., 1966 г.***




## Жыццё

Сцены. Столь. Халаты. Крык.
Галава. Цягні. На свеце.
Ежа. Плач. Акно. Мужык.
Урачы. Жанчыны. Дзеці.

Ложак. Дом. Пялёнкі. Сон.
Сінякі. Вятранка. Бойкі.
Клас. Настаўнік. Двойка. Стогн.
Бацька. Рэмень. Плач. Насоўка.

Інстытут. Гарэлка. Гул.
Галава. Дзяўчаты. Кніга.
Семінар. Залік. Прагул.
Дэканат. Загад. Адліга.

Праца. Жонка. Рай. Шалаш.
Сварка. Хата. Грэбля. Боты.
Рыба. Дача. Лес. Гараж.
Агуркі. Салат. Кампоты.

Печань. Страўнік. Грыжа. Ціск.
Піва. Фільм. Канапа. Жарты.
Сын. Пакой. Дзяўчына. Віск.
Друг. Бутэлька. Песня. Карты.

Крыж. Магіла. Кветкі. Жаль.
Людзі. Марш. Свята. Да Бога.
Стол. Гарэлка. Слёзы. Даль.
Цемра. Свет. І зноў дарога!..

***Віктар ВАРАНЕЦ,***
***г. Гродна.***






Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## Пагасціў



Аднойчы старога Ігната
Запрасіў сусед на свята.
З тае гулянкі пазнавата
Вярнуўся дзед Ігнат дахаты.
І не паспеў яшчэ прысесці,
Гукнуў: «Старая, дай што з'есці!»
Бабулька прабурчала ў злосці:
– Во, паклікалі у госці!
А на стале там што – шы-шы?
– Э, старая, не грашы:
Каўбас было якіх заўгодна,
А паляндвіца – глянуць люба!
– Чаму ж тады прыйшоў галодны?
– Чаму-чаму?
Забыўся ўзяць з сабою зубы!

***Мікола КАРАЛЁЎ,***
***г. Гродна.***






## З-за цікаўнасці

Двое лупяць адзін аднаго кулакамі. Падыходзіць трэці:

– З-за чаго вы б'яцеся?

– Бо цікаўныя ўсюды нос сунуць, – адказаў адзін, і яны ўдвух накінуліся на трэцяга.

## Каханне потым

Акуліне за 60, даўно на пенсіі. А выглядае молада.

Суседка і пытае:

– Ты, галубка, спіш яшчэ з мужам?

– Ды што ты, няма калі. Вось падгадую унукаў – тады і займуся каханнем.

## Засмучае

У кішэннага злодея ўчастковы пытае:

– Няўжо цябе нічога не засмучае ў тваім жыцці?

– Чаму ж не? – адгукаецца той. – Пустыя кішэні!

## Муж-назіральнік

Мужчына залез высока на дрэва. Сеў на сук ды раз-пораз крычыць:

– Бачу, бачу!

– Што ты бачыш? – пытаюцца прахожыя.

– Як сусед да маёй жонкі на спатканне ідзе!



## Снайпер

П'яны вадзіцель збіў падарожны знак.

– І трэба было табе трапіць на яго! – абураецца аўтаінспектар.

– А я ў арміі быў снайперам...

***Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,***
***Гомельская вобласць,***
***г. п. Акцябрскі.***





Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Алеся ТРУШКО.




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# ПРЫПЕЎКІ

З гурбы ў гурбу я зімой
Галавой куляюся.
Бяры санкі, мілы мой,
Разам пакатаемся!

***Праспявала Галіна СУТУЛА,***
***г. Глыбокае.***

Не кажыце, што я ныцік,
Бо ў мяне ёсць інтарэс:
Я б да жвавай маладзіцы
Пад кажух яшчэ б залез!



Я саперніцу ў муку
Доўгім носам утаўку,
Хай падыхае ў муцэ
Вітамінам АбэЦэ.



Люблю Янку-беларуса
Не за грошы, а за вусы.
Хай павучыцца француз,
Як цалуе беларус.



Ну й чырвоны ў хлопца нос.
Зразумела – ён п'янтос.
Во шанцуе дзе Максіму:
Дзед Мароз, як ёсць, без грыму.



Мне прыбавілі зарплаты,
А ў мяне ізноў хандра,
Бо да хлеба і гарбаты
Трэба ж і гаспадара.



Як мужчынскі чуем бас,
Ўсё варушыцца у нас.
І пакуль басы гудуць,
Нам памерці не дадуць.

***Праспявала Людміла ЮШЫНА,***
***г. Гомель.***

Вось дзяўчына без прычыны
Крэм купляе ад маршчынак.
Крэм купіць той не забудзь,
Калі пенсію дадуць!

***Праспявала Зоя НАВАЕНКА,***
***Глыбоцкі раён,***
***г. п. Падсвілле.***

# Анекдоты

**_Ад Паўла ГАРАДЦОВА_**

***Вы напісалі артыкул і хочаце яго надрукаваць? Рабіце наступным чынам.***




● Калі вы разумееце, што напісалі, і можаце гэта даказаць – дасылайце ў які-небудзь матэматычны часопіс.

● Калі вы разумееце, што напісалі, але не можаце гэта даказаць – дасылайце ў часопіс па фізіцы.

● Калі вы не разумееце, што напісалі, але можаце гэта даказаць – дасылайце ў эканамічны часопіс.

● Калі вы анічога не разумееце з напісанага і не можаце гэта даказаць – дасылайце ў часопіс па філасофіі!




● ● ●

Па вныіакх дсалдеавнянў андгоо агнлісйакга ўінвретіэста, не мае занчнэня, у яікм праакду рмазеачшны лтіраы ў совле. Глаоанўе, каб преашя і ашопяня ліраты блыі на мцесы. Атстаіня ліарты мгоцуь іцсі ў бепсраакду, усё рўона ткэст чыатцеца без парбелм. Пырчныай гэатга з'ялўяцеца той фкат, што мы не чыеатм кжоуню лтірау пасаокбу, а ўсё солва цлаакм.







Малюнкі Алега ГУЦОЛА.

## Павел САКОВІЧ




# Жонка ці... русалка?

Гумарэска

Мой начальнік малады, але вельмі жорсткі, як ён кажа, патрабавальны. На кожнай планёрцы, нарадзе, – а гэта два-тры разы на тыдзень, – ён усё патрабуе і патрабуе. «Павысіць, узняць, дабіцца, зэканоміць, даручыць, пракантраляваць...» Якая багатая бюракратычная мова! У гэтым сэнсе мой начальнік вельмі красамоўны. Слухаў бы з замілаваннем, калі б яго красамоўства вылівалася не на мяне. Праўда, і астатнім перападала, але ж заўсёды здаецца, што табе дасталося больш за ўсіх. Пасля гэткіх прачуханак асабіста ў мяне прадукцыйнасць працы адразу зніжалася і ледзь аднаўлялася ў канцы рабочага дня.

Неяк, вяла закончыўшы адзін такі цяжкі дзень, я накіраваўся да свайго трамвайнага прыпынку, што насупраць магазіна «Акіян». Раптам я заўважыў свайго шэфа, якога ніколі тут не сустракаў раней. «Чаго ён сюды прыпёрся? – падумаў я. – Лепш з ім не бачыцца, а то зноў настрой сапсуе». Я хацеў абмінуць яго, але начальнік, як мне здалося, быў нейкі ўзбуджаны, нервова азіраўся па баках і апісваў невялікія кругі каля «Акіяна». «Што, можа, і яму дасталося на нарадзе ў главку?» – іранічна, але з доляй спачування падумаў я і тут сутыкнуўся з ім нос у нос.

– А-а, гэта вы... – неяк расчаравана-здзіўлена прамармытаў начальнік, нібы гэта я прыцёгся на яго прыпынак, а не наадварот. Я нерашуча пачаў сцягваць пальчатку, каб прывітацца. Начальнік зрабіў гэта хутчэй і першы працягнуў руку: – Добры вечар!

Сапраўды, звечарэла ўжо даўнавата. Мы з напарнікам затрымаліся на рабоце, бо ўзялі па кроплі, каб зняць стрэс. Для прадукцыйнасці працы было б лепш здымаць яго зрання, пасля нарады, але ў рабочы час – ні-ні!

– Як справы? – фармальна-паспешліва спытаў шэф, паводзячы па баках вачамі і носам.

«Няўжо ўнюхаў?» – спалохана падумаў я, але з палёгкай успомніў, што тую «кроплю» мы добра «закусілі» мятнай гумкай.

– Ды вось, – не разгубіўся я, – затрымаліся з напарнікам на працы. Думалі, як палепшыць работу...

– Малайцы, малайцы, – не чакаючы працягу спыніў ён і раптам ледзь не ўскрыкнуў: – Глядзіце, ці не ваш гэта трамвай падыходзіць?

Трамвай быў не мой, але я, не развітаўшыся, кінуўся да прыпынку. Мяне нават парадавала, што начальнік не пацікавіўся, як жа мы будзем паляпшаць работу? З іншага боку, гэта мяне здзівіла і крыху насцярожыла. Спачатку я нават пакрыўдзіўся на такую абыякавасць да нашых планаў. Стоячы ў натоўпе, я зрэдку паглядваў у бок шэфа, але так і не заўважыў, як ён знік.

Літаральна праз два дні сітуацыя паўтарылася. Начальнік круціўся насупраць «Акіяна», нібы пільнуючы мяне. Раніцай гэтага ж дня на планёрцы ён зрабіў мне чарговую заўвагу. Пры ўсіх я не хацеў спрачацца, а тут, у цемры, сам-насам, думаю, не змаўчу. Я нават не памкнуўся абмінуць яго, а падышоў адразу. Пакрыўджана буркнуўшы прывітанне, я пачаў нешта казаць у сваё апраўданне. Шэф амаль не слухаў і ўсім выглядам паказваў, што ён вельмі спяшаецца: паглядваў на гадзіннік, аднак... не кранаўся з месца. Нарэшце ён не вытрымаў і спыніў мяне:

– Слухайце, ды не звяртайце вы столькі ўвагі на тыя заўвагі! Добра вы працуеце, добра. І ўсяго вам добрага!

І ён развітаўся, паказаўшы мне на трамвай... На наступнай нарадзе шэф толькі зыркнуў на мяне і прычапіўся да суседа. Я, канешне, абрадаваўся, але мая насцярожанасць не прайшла да канца нарады.

Праз дзень я зноў убачыў шэфа на знаёмым месцы. Гэта ўжо не магло быць выпадковым супадзеннем. Тым больш, што дамоў яму трэба ехаць не адсюль і на іншым транспарце. Няўжо атрымаў новую кватэру, дзе-небудзь бліжэй да цэнтра? У начальнікаў гэта проста робіцца... Прывітаўшыся, я так і спытаў:

– Нешта часта мы тут з вамі сустракаемся. Мо дадому адсюль ездзіць сталі? Відаць, кватэру новую атрымалі?

Начальнік спалохана замахаў рукамі:

– Што вы, што вы, якая кватэра!

Ён разгублена пакруціў па баках галавой і спыніў свой позірк на магазіннай шыльдзе.

– Ведаеце, – раптам даверліва сказаў шэф, – маёй жонцы спадабаўся «Акіян». Як зойдзе – не выгнаць. Яна там як рыба ў вадзе, – пажартаваў ён і заклапочана зірнуў на гадзіннік.

– А-а, – расчаравана працягнуў я, зразумеўшы, што наша «спатканне» закончана.

Паверце, я ўпершыню не паверыў шэфу. Не, пра кватэру, як ні дзіўна, я паверыў адразу, а вось пра жонку – не паверыў. Чаму гэта яна толькі зараз упадабала «Акіян», які стаіць тут гадоў трыццаць? І чаго так нервавацца, калі ты ўсяго толькі чакаеш жонку? Тым больш, што я ніколі не бачыў яе разам з ім...

«Не, галуба, – лагодна думаў я, падыходзячы да свайго прыпынку, – старога вераб'я на мякіне не правядзеш. Зусім не жонку хацеў ты "вылавіць" з "Акіяна", а маладзенькую русалку».

Паверце, мне вельмі хацелася, каб гэта было праўдай... Не, не дзеля таго, каб напісаць на шэфа данос. Крый Бог! (Ды і каго цікавяць цяпер такія амаральныя дробязі!) Абы начальніку на здароўе, а мне на карысць. Падабрэў шэф, значыць, трэба быць узаемна ветлівым! Яшчэ маліцца буду, каб тая русалка з «Акіяна» не зацягнула яго ў які-небудзь вір.






**Уладзімір МАЗГО**

# Шарады

*Шарада – гэта загадка, у якой зашыфраванае слова адгадваецца па частках, кожная з якіх – самастойнае слова, склад ці літара.*

1

Слова-дрэва –
Першы склад.
Слова-кіпень –
Акурат
Гэта будзе
Склад другі.
Іх складзі,
Мой дарагі, –
Атрымаюць вучні
Першы свой
Падручнік.

2

Сэнс
Другой загадкі:
Лічба
Плюс ападкі –
Зашумець павінны
У вадзе расліны.

3

Якія трэба
Ўзяць дзве ноты,
Каб атрымаць
У суме потым,
Нібы мелодыю нябёс,
Сінонім
Слову «лёс»?..

4

Ты вазьмі,
Мой дарагі,
Меру даўнюю
Вагі,
Да яе дадай
Час сутак –
І нясі матулі
Скрутак,
У які,
Калі ты мудры,
Ўклаў каробачку
Для пудры.



Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

**АДГАДКІ на шарады:**
1. Буквар. 2. Трыснігі.
3. Доля. 4. Пудраніца.




**Міхась КАВАЛЁЎ**

## Таму і прыгожая

– Праўда, Таня, наша мама – вельмі прыгожая! – гаворыць тата пяцігадовай Тані.

– Канешне, – адказвае малая. – Яна ж бярэ маю парфуму.

## Надакучыла

Сям'я ўкладваецца спаць. Раптам Юрачка заўпарціўся:

– Не буду распранацца!

– Чаму? – дзівіцца маці.

– А заўтра зноў апранайся... Надакучыла!..

## Супакоіла

Да хлапчукоў падышла малая Святланка.

– Мы з дзяўчынкамі не гуляем! – заявілі хлапчукі.

– Не хвалюйцеся! – супакойвае іх Святланка. – Мне бабуля сказала, што ў мяне характар мужчынскі.



## «Ведае»

– Дзеці, хто ведае, дзе падзелася наша Юлька? – пытае выхавальніца.

– Я ведаю! – падхопліваецца Вова. – Яна пайшла!

– Куды ж яна пайшла?

– Не ведаю, куды, але пайшла!

## Ёсць розніца

– Бабуля, трэба даць есці нашаму коціку, – гаворыць пяцігадовая Наташа.

– Дык я ж яму ўжо наліла малака, – адказвае бабуля.

– Малако ён п'е, – пярэчыць унучка, – а трэба даць есці!

## Абедала, але не ела

Маці сустракае дачушку з дзіцячага садка і распытвае:

– Што ты сёння рабіла?

– Гуляла, спала, абедала... – расказвае малая.

– А што ты ела?

– Нічога...

***Даслаў Міхась СЛІВА,
г. Рагачоў.***






Малюнкі Андрэя СЛУЦКАГА.

# «Смачная» крыжаванка

***Упішы ў гарызантальныя клеткі антонімы да слоў і прачытай па вертыкалі назву салодкага кандытарскага вырабу.***

**АНТОНІМЫ — словы адной і той жа часціны мовы з процілеглым значэннем.**

**АНТОНІМЫ да слоў:**

1. **Браць.**
2. **Ніхто.**
3. **Далёка.**
4. **Ноч.**
5. **Добры.**
6. **Малы.**
7. **Хлусня.**






## Знаёмцеся: Рэнэ МАЛЬТЭТ!

*Французскі фатограф Рэнэ Мальтэт, які пражыў на гэтай зямлі ні многа ні мала 70 гадоў, умеў рассмяшыць публіку. Рэнэ быў анархістам, нонкамфармістам, праціўнікам насілля, пацыфістам. Але ў першую чаргу ён быў асобай, якую нельга зламаць, бо, нягледзячы на адсутнасць сацыяльнага страхавання, пенсіі і афіцыйнай работы, Мальтэт рабіў свае фотаздымкі і быў шчаслівы.*

*Незалежны фатограф Р. Мальтэт супрацоўнічаў з фотаагенцтвам «Рафо», для якога і рабіў свае шыкоўныя і іскрамётныя фотаздымкі, бо толькі гэтае агенцтва разумела яго творчасць і ніколі не прыгнятала.*







## Анекдоты

Бландзінка ў раддоме плача. Медсястра пытаецца:

– Чаму вы плачаце?

– У мяне двойня, – усхліпваючы, адказвае бландзінка.

– І што?

– Што я мужу скажу, адкуль другое дзіця?!



– Ну, хлопцы, я сёння дакладна выйграю!

– Ага, у мяне так бацька казаў, калі ў нас яшчэ кватэра была...



– Прыязджай у госці!

– Ай, зноў нап’емся...

– Ну і што?

– Умееш ты ўгаворваць! Еду!



– А страхоўка ў вас надзейная?

– Выключна надзейная! На мінулым тыдні мужчына выпаў з сямнаццатага паверха. Ён даляцеў толькі да пятага, а жонка ўжо атрымала страхоўку.



Начальнік:
– Ды зараз з цябе вакансію зраблю!



– Мілая, дай мне кампоту!
– Якога?
– Не бачыш, як мне дрэнна? Давай агурочнага!



– Які ў цябе зрок?
– Мінус пяць.
– Мерзнеш, відаць?



Адэскі дворык.
– Сёмачка, ідзі есці!
– Я ўжо у Паўліка паеў.
– Ой! Гэта не сын, а золата!



– Добры дзень! Мяне завуць Вадзім.
– Вельмі прыемна!
– Гэта ненадоўга...



– Малады чалавек, купіце кветкі сваёй дзяўчыне, бо я ўжо замерзла тут стаяць.
– А пачым кветачкі?
– Сто тысяч штучка.
– Вам трэба больш цёпла апранацца...






# Людзі кажуць...

Работнікаў бюро рытуальных паслуг вельмі раздражняе фраза: «Ну, прыкладна вашага росту».



Галоўнае – ідзі і не азірайся. Азірнешся – успомніш. Успомніш – пашкадуеш. Пашкадуеш – вернешся. Вернешся – пачынай усё спачатку...



Прыйшоў дахаты пасля карпаратыва. Падлога радасна кінулася мне на грудзі.



Калі мужчына кажа, што вы будзеце жыць у яго сэрцы, не радуйцеся: магчыма, там у яго інтэрнат.



Птушкі, якія прыляцелі на зімоўку з Расіі ў Турцыю п'юць, лаюцца і перашкаджаюць адпачываць іншым птушкам.

**Адказы на крыжаванку стар. 24.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Агонь. 3. Варона. 6. Ежа. 7. Жаба. 9. Дым. 11. Цукерка. 13. Нораў. 15. Хвост. 17. Юр'еў. 20. Язык. 22. Зуб. 23. Трава. 24. Сініца. 26. Рыбак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Баран. 4. Галава. 5. Франт. 8. Мёд. 10. Кашуля. 12. Шчаўе. 14. Чорт. 16. Поп. 18. Ідзеш. 19. Улез. 21. Удача. 25. Ліса.

# Крыжаванка «Алфавіт»

*Упішыце ў гарызантальныя і вертыкальныя клеткі прапушчаныя словы з прыказак і прымавак (амаль на ўсе літары алфавіта). Усе гэтыя словы — назоўнікі (акрамя слоў № 17 — прыметнік і №№ 18, 19 — дзеясловы).*



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. ... маслам не патушыш. 3. Пужаная ... і куста баіцца. 6. Чалавек без сябра, што ... без солі. 7. ... і залатога трона ў балота скача. 9. Свой ... вочы не есць. 11. Шчасце не ...: у рукі не возьмеш. 13. Што двор, то ... 15. Дзвюх сарок разам за ... не ўтрымаеш. 17. Вось табе, бабка, і ... дзень. 20. ... мой — вораг мой. 22. Вока за вока, зуб за ... 23. Будзе пара — вырасце ... 24. Вераб'і з'елі крупы, а ... трапіла ў сіло. 26. Бацька — ..., і дзеткі ў ваду глядзяць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Авечку стрыгуць, а ... дрыжыць. 4. Як ... сівее, то чалавек мудрэе. 5. ...: салам боты вымазаў і шкурку з'еў. 8. На языку ..., а пад языком лёд. 10. Свая ... бліжэй да цела. 12. Галоднаму Фядоту і ... ў ахвоту. 14. Чалавек страляе, а ... кулю носіць. 16. Які ..., такі і прыход. 18. ... на дзень, хлеба бяры на два. 19. Калі ... у дугу, не кажы: не магу. 21. ... і бяда не прыходзіць адна. 25. Бедная тая ..., што толькі адну нару мае.


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 1 (1492), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года. Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел).*

*Рэдактар стылістычны* Кацярына ГОЛУБ.
*Камп'ютарная вёрстка* Святлана СТАРАВЕРАВА.

**Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

**Адрас рэдакцыі:
220005, Мінск,
праспект Незалежнасці, 39.
E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 284-66-72, факс — 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 10.01.2013
Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,64 Тыраж 1956 экз.
Заказ 106.

Кошт нумара ў розніцу 14 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.